ПРАФСАЮЗЫ

**РАБОЧЫЯ НА ШЛЯХУ АБАРОНЫ СВАІХ ПРАВОЎ** Стар. 2-3.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

**ДАЧНЫЯ КЛОПАТЫ** Стар. 3.



**«ВАМІ ЦЯПЕР Я ЖЫВУ БОЛЬШ, ЧЫМ САМІМ САБОЮ»** *ЛАГЕРНЫЯ ПІСЬМЫ АДАМА БАБАРЭКІ* Стар. 4-5.

**А НА БЕЛАРУСІ — ПІВА МЯДОВАЕ** Стар. 7.



**РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА** Стар. 6.

АСОБА

**СПЯВАЧКА Ліка ЯЛІНСКАЯ: «МНЕ ГРЭХ СКАРДЗІЦЦА НА ЛЁС»** Стар. 8.




АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

30 верасня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 38—39 (2648—2649)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


АФІЦЫЙНА

## УЗ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСІ – ГІСТАРЫЧНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

**60-годдзе ўз'яднання Беларусі шырока адзначалася ў краіне. Завяршэннем урачыстасцей стала святкаванне гэтай даты ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Тут сабраліся кіраўнікі краіны, члены ўрада, парламентарыі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, грамадскіх арганізацый. Перад удзельнікамі свята выступіў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.**

У сваёй прамове Прэзідэнт спыніўся на прычынах, якія абумовілі як расчляненне Беларусі, што стала магчымым у выніку падпісання ў 1921 годзе Рыжскага дагавора, так і аб'яднанне яе заходняй і ўсходняй частак пасля прыходу ў верасні 1939 года Чырвонай Арміі на тэрыторыю Заходняй Беларусі.

Знаходзячыся ў складзе Польшчы да 17 верасня 1939 года, заходнія беларусы перажылі не самыя шчаслівыя часы. Улады праводзілі жорсткую палітыку паланізацыі і каталізацыі беларускага насельніцтва.

Але беларусы не заставаліся пакорлівымі. "Гісторыя даказала, што не можа быць вечным насільнае расчляненне цэлага народа", — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Пасля верасня 1939 года гістарычная справядлівасць перамагла, і беларусы ўпершыню атрымалі магчымасць развіваць сваю дзяржаўнасць у рамках адзінага нацыянальна-тэрытарыяльнага ўтварэння.

"Сёння мы будуем у дзяржаве грамадства сацыяльнай справядлівасці, маем намер і ў далейшым развіваць рэальны сектар эканомікі, павялічваць прадукцыйнасць працы, вырабляць канкурэнтаздольную прадукцыю", — сказаў кіраўнік краіны.

Правільнасць выбранага курсу пацвярджаецца і данымі, што прыводзяць такія непрадузятыя эксперты, якімі з'яўляюцца аанаўскія арганізацыі. Апошнія даныя ААН сведчаць, што Беларусь па паказчыку індывідуальнага развіцця чалавечага патэнцыялу ў агульным пераліку краін свету не толькі не апусцілася, а ўзнялася з 68-га на 60-е месца, апярэдзіўшы такую вялікую краіну, як Расія.

Характарызуючы сітуацыю са становішчам нацыянальных меншасцей у рэспубліцы, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў яе унікальнасць: у краіне няма і не можа быць міжнацыянальных і міжканфесіянальных канфліктаў. Асноўнай канфесіяй у Беларусі з'яўляецца праваслаўе, каталіцызм займае другое месца. А ўсяго ў рэспубліцы 26 канфесій, і ніхто нікому не перашкаджае хадзіць у той храм, у які ён хоча.

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, міжнацыянальная згода ў грамадстве тлумачыцца асаблівасцямі беларускага менталітэту. Акрамя таго, гэтаму садзейнічае дакладная дзяржаўная нацыянальная палітыка. Дзяржава рэальна гарантуе правы грамадзян, запісаныя ў Канстытуцыі. "Прынцыпе поліканфесіянальнай мадэлі, якая прадстаўляе аднолькавыя правы ўсходняй і заходняй традыцыям, садзейнічае захаванню міру і стабільнасці на нашай зямлі", — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

"У Беларусі няма тэрытарыяльных і іншых прэтэнзій да суседніх краін. Па ўсіх сваіх граніцах мы маем добразычлівыя настроеныя да нас народы і дзяржавы", — сказаў А. Лукашэнка.

Кіраўнік дзяржавы выказаў перакананне, што рэгіён Цэнтральнай і Усходняй Еўропы павінен стаць рэгіёнам дружбы паміж народамі. Беларусь гатова да дружбы і супрацоўніцтва з Еўропай.

БелТА.

**(Гістарычная хроніка падзей на 2—3 старонках).**

## КІРМАШ-99





**На Кастрычніцкай плошчы беларускай сталіцы ішоў бойкі гандаль усімі дарамі восені: яблыкамі, слівамі, грушамі, разнастайнай гароднінай, бульбай і нават шчупаком і іншай рыбай, выгадаванай у рыбных гаспадарках рэспублікі. Мінчане і госці сталіцы змаглі закупіць неабходную гародніну на зіму.**

**НА ЗДЫМКАХ: кірмаш на Кастрычніцкай плошчы.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

СПОРТ

## РАЗВІТАЛЬНЫ МАТЧ Сяргея АЛЕЙНІКАВА



**Сяргей Алейнікаў увайшоў у футбольную гісторыю як чалавек, які на буйнейшых спаборніцтвах (чэмпіянаце свету ў Мексіцы і чэмпіянаце Еўропы ў Германіі) двойчы атрымліваў прызы для іграка, які забіў самы хуткі гол.**

Вялікі футбол, вялікія імёны, фантастычная тэхніка. Некалі гэтыя ўзвышаныя вызначэнні гучалі ў вуснах балельшчыкаў на мінскім стадыёне "Дынама". З часу, калі чэмпіёны Савецкага Саюза 1982 года пакінулі спартыўную арэну, нам рэдка даводзіцца бачыць сапраўдных майстроў скуранога мяча.

І вось такі момант надышоў. Альфа-радыё ўзяло на сябе арганізацыю развітальнага матча аднаго з лепшых айчынных футбалістаў Сяргея Алейнікава. А каб надаць пікантнасць матчу, вырашана запрасіць на сустрэчу з зорным складам "Дынама"-82 зборную Савецкага Саюза таго перыяду, калі Алейнікаў абараняў гонар той краіны.

Якія ігракі ступілі на ізумруд дынамаўскага газона! Непаўторны Дасаеў у варотах. Узрыўны, хуткі па сёння Ярамчук. Грунтоўныя Чывадзе і Дзям'яненка. Няўступчывы, па-сапраўднаму злы і нахабны Хідзіятулін. Філіграння Гаўрылаў, Чаранкоў, Аганесян, Чаўнок, Пазнякоў. Разумнікі Міхайлічэнка і Радзіёнаў. Нястрымны Рац. Якіх перамог дасягнулі ў свой час гэтыя людзі, якіх сапернікаў ставілі на калені! У гэтым сузор'і сваім чалавекам быў наш Сяргей Алейнікаў.



Удзельнікі развітальнага матча.

І вось футбольная кар'ера Алейнікава-іграка завершана. На чарзе лёс Алейнікава-трэнера. Сяргей у Італіі скончыў школу трэнераў і мае сур'ёзны намер дабіцца поспехаў і на гэтай ніве.

**ЖАРТАМ...**

# НАЗАВЁМ ТЭЛЕВІЗАР ПА-СЯМЕЙНАМУ?

Новая мадэль тэлевізара "Віцязь" атрымае назву "Мая сям'я". У гэта верыць аўтар і вядучы адной з самых папулярных перадач Расійскага тэлебачання Валерый Камісараў. Ён пабываў на Віцебскім тэлевізійным заводзе, каб абмеркаваць праект каляровага прыёмніка з незвычайнай назвай.

Тыя, хто глядзіць шоу Камісарава, даўно прыкмецілі: "Віцязь" у якасці спонсара замяніў фірму "Арыстон". Журналіст гэтым задаволены. Вытворчасць апарата "Мая сям'я", на думку Валерыя, падыме аўтарытэт віцебскай маркі і нават паслужыць высакароднай задачы ўмацавання сем'яў.

Камісараў у сувязі з гэтым падкрэслівае сваю прыхільнасць здароваму кансерватызму: былы камсамольскі сакратар маладзёжнай рэдакцыі ЦТ, цяпер веруючы чалавек, прыхільнік непарушнага сямейнага ачага, праціўнік фемінізму і замежных тавараў, школу скончыў з залатым медалём і ўпершыню пацалаваўся ў 21 год.

Сустрэча з кіраўніцтвам вытворчага аб'яднання "Віцязь" зрабіла на Валерыя добрае ўражанне: "Гэта людзі, якія думаюць пра свой народ".

Жанчыны "Віцязя" ў час сустрэчы закідалі імпазантнага госця запіскамі (часам — інтымнага характару). Таму сумнявацца ў поспеху тэлевізара "Мая сям'я" ў прыгожай паловы грамадзян Беларусі і Расіі не даводзіцца.

**І ЎСУР'ЁЗ**

# ВА «ГАРЫЗОНТ» З РАСІЙСКІМІ КІНЕСКОПАМІ

Вытворчае аб'яднанне "Гарызонт" (г. Мінск) пачынае выпуск тэлевізараў з кінескопамі Варонежскага электралямпавага завода (ВЭЛЗ). Першая партыя кінескопаў (75 штук) пастаўлена на "Гарызонт" у канцы красавіка гэтага года. У маі набыта яшчэ каля 1 тысячы кінескопаў.

Выпуск кінескопаў памерам 20 дзюймаў і 21 дзюйм па дыяганалі на ВЭЛЗ быў узноўлены ў сакавіку гэтага года ў рамках выканання праграмы "Саюзны тэлевізар".

Выкарыстанне кінескопаў расійскай вытворчасці дасць магчымасць знізіць долю камплектуючых, што набываюцца за свабодна канвертуемую валюту, на 52 працэнты і павысіць канкурэнтаздольнасць айчынных тэлевізараў за кошт зніжэння затрат на іх вытворчасць. Так, ужо цяпер заходнія пастаўшчыкі кінескопаў вымушаны зніжаць свае цэны, патлумачылі на прадпрыемстве. Раней ВА "Гарызонт" выкарыстоўвала ў вытворчасці камплектуючыя фірм "Томсан", "Панасонік", "Філіпс", "Самсунг". Мяркуецца, што к канцу гэтага года ВЭЛЗ будзе выпускаць каля 40 тысяч кінескопаў у месяц, што дазволіць поўнасцю забяспечыць патрэбы беларускіх і расійскіх вытворцаў у кінескопах такіх памераў.

ВА "Гарызонт" выпускае каля 40 мадэлей і мадыфікацый тэлевізараў каляровага адлюстравання. Сярэднямесячны аб'ём вытворчасці складае каля 20 тысяч тэлевізараў. Летась ВА "Гарызонт" выпусціла 250 тысяч тэлевізійных прыёмнікаў.

**ПРАФСАЮЗЫ**

**Прафесійныя саюзы аказаліся самымі актыўнымі і дысцыплінаванымі ўдзельнікамі аб`яўленай у гэтым годзе кампаніі па перарэгістрацыі грамадскіх арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Прычым у адрозненне ад грамадскіх аб`яднанняў і палітычных партый, большасць прафсаюзаў працягвае сваю дзейнасць. Так, з 42 аб`яднанняў працоўных больш за 35 паспяхова прайшлі перарэгістрацыю.**

# РАБОЧЫЯ НА ШЛЯХУ

● **Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Гэта дае падставы сцвярджаць, што прафсаюзны рух на Беларусі сёння зноў набірае папулярнасць, хаця ў канцы 80-х гадоў прафсаюзы згубілі прыкладна пятую частку членаў. Але адначасова ў пачатку 90-х у краіне пачалі стварацца прафсаюзы новай хвалі, якія заўважна адрозніваліся ад афіцыйных. Апошнія па інерцыі яшчэ ў многім працягвалі традыцыі адзінага савецкага прафсаюза — "школы камунізму".

У пачатку 90-х у Беларусі адбылася кардынальная трансфармацыя прафсаюзных арганізацый. Прафсаюзы пачалі рэгістравацца як самастойныя грамадскія аб`яднанні. Фарміраванне іх часцей за ўсё праводзілася па галіноваму прызнаку. Такім чынам, у краіне з`явіліся самастойныя прафесійныя аб`яднанні працаўнікоў сельскай гаспадаркі, аўтамабільнай прамысловасці, хімічнай прамысловасці, працаўнікоў лесу, працаўнікоў рыбнай гаспадаркі і нават такія экзатычныя, як, напрыклад, прафсаюзы авіядыспетчараў і г. д.

Большасць прафсаюзных арганізацый стварылі Федэрацыю прафсаюзаў Беларускую (ФПБ). У яе склад увайшло амаль 30 прафсаюзаў. Гэты орган спатрэбіўся для таго, каб прадстаўляць працоўныя сілы на перамовах з урадам. Менавіта ФПБ мае права заключаць з урадам краіны генеральнае пагадненне, у якім абгаворваюцца ўмовы працы рабочых розных галін, узровень заработнай платы і парадак яе выплаты. Прафсаюзы, акрамя гэтага, самастойна заключаюць з наймальнікамі тарыфныя пагадненні і калектыўныя дагаворы.

Але ў ФПБ увайшлі толькі паслядоўнікі афіцыйных прафсаюзаў. Між тым, у пачатку 90-х у краіне пачалі ствараццa альтэрнатыўныя прафсаюзы, якія займалі крыху іншую пазіцыю. Першай такой арганізацыяй стаў Беларускі незалежны прафсаюз гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, будаўнікоў і іншых працаўнікоў. Ядро гэтай арганізацыі знаходзіцца і па сённяшні час у Салігорску, на прадпрыемствах па здабычы мінеральных угнаенняў. Узначальвае прафсаюз на працягу некалькіх гадоў Віктар Бабаед. Прафсаюз запомніўся тым, што менавіта ён у 1990 годзе падняў хвалю пратэсту, якая ў многім стала вызначальнай для накірунку развіцця дзяржавы ў канцы гэтага стагоддзя. На сённяшні дзень прафсаюз аб`ядноўвае ў сваіх шэрагах 10 000 чалавек. Сваю работу ён не грунтуе толькі па галіновым прызнаку: у яго ўваходзяць як шахцёры і электрыкі, так і настаўнікі, урачы.

Другой ластаўкай стаў Свабодны прафсаюз Беларускі, які існуе з 1991 года. Роля СПБ у фарміраванні новага ўяўлення аб рабочым руху ў Беларусі, верагодна, не меншая, чым Незалежнага прафсаюза гарнякоў... Але жыццё СПБ было не такім бязвоблачным. Арганізацыя перажыла раскол, пасля гучнай забастоўкі на Мінскім метрапалітэне была забаронена, але пазней адноўлена ў правах Канстытуцыйным судом. На сённяшні дзень СПБ налічвае ў сваіх шэрагах больш за 5 тысяч членаў. Яго кіраўнік — Генадзь Быкаў.

Зразумела, імкнучыся рэальна ўплываць на падзеі ў краіне, альтэрнатыўныя саюзы таксама паспрабавалі арганізаваць уласны каардынуючы орган. Так быў створаны Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (КДП), які аб`яднаў тры арганізацыі. Гэта дазволіла прафсаюзам новай хвалі заключаць аналагічнае генеральнае пагадненне з урадам, як і афіцыйныя прафсаюзы. Дарэчы, падчас перарэгістрацыі тры прафсаюзы

**ПРЫВІТАННЕ, ШКОЛА!**





# НЕЗВЫЧАЙНЫ 5 «В»

Сёлета ў мінскую сярэднюю школу № 23 разам з іншымі школьнікамі прыйшлі і вучні 5 "В" класа. Але чаму пра 5 "В" мы згадваем асобна? Справа ў тым, што гэта незвычайны клас. Вучні яго "збіраліся" з усяго горада. Гэта чэмпіёны Мінска па розных стылях плавання сярод дзяцей 1988 года нараджэння. І, нарэшце, гэта будучыя нашы чэмпіёны. Магчыма, праз колькі гадоў яшчэ неаднойчы беларускі сцяг будзе лунаць у розных канцах свету пасля іх перамог.

У вучняў гэтага класа, а значыць і ў класнага кіраўніка, настаўніцы гісторыі Ірыны Шаруліч, асобны распарадак дня. Дадаў клопату 5 "В" клас і дырэктару школы Ларысе Лявоненка. У спецкласе частка вучняў раней вывучала англійскую мову, частка нямецкую, астатнія толькі далучацца да замежных моў. Для ўсіх дзяцей трэба "знайсці" настаўнікаў, падручнікі, забяспечыць спецхарчаваннем і г. д. У басейне дзяцей возьмуць пад свой кантроль вопытныя трэнеры на чале з дырэктарам спартыўнай школы, якая існуе пры Доме афіцэраў, Вольгай Кваснікавай.

Поспехаў вам, чэмпіёны!

**Валеры БОР.**

**НА ЗДЫМКАХ: дырэктар школы Ларыса ЛЯВОНЕНКА; вучні 5 "В" са сваім класным кіраўніком.**

# МІЖНАРОДНЫЯ КАНТАКТЫ

21 верасня ў Дзяржкамітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь старшыня камітэта Аляксандр Білык прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Турцыя ў Рэспубліцы Беларусь Шуле Сойсал па яе просьбе.

Адбыўся абмен думкамі па праблемах дзяржаўна-канфесіянальных і міжканфесіянальных адносін, а таксама аб палітыцы ў адносінах нацыянальна-культурных супольнасцей. Спадарыня Шуле Сойсал была праінфармавана аб мерапрыемствах, якія праводзяцца ў рэспубліцы ў сувязі з надыходзячым трэцім тысячагоддзем і святкаваннем 2000-годдзя хрысціянства.

У ходзе размовы была падкрэслена неабходнасць абмену вопытам у пытаннях фарміравання заканадаўчай базы, дзяржаўнай этнаканфесіянальнай палітыкі, а таксама актуальнасць барацьбы з праявамі экстрэмізму ў этнаканфесіянальнай сферы.

**60 ГОД УЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ**

# ЯК ГЭТА БЫЛО?

**Год 1917.** Савецкая Расія, знясіленая вайной і гаспадарчай разрухай, пачынае сепаратныя перагаворы з Германіяй і Аўстрыяй. Падпісана пагадненне аб перамір'і. 26 лістапада ў Брэсце (тады ён называўся Брэст-Літоўск) пачынаюцца мірныя перагаворы. Да гэтага часу лінія фронту па тэрыторыі Беларусі праходзіла на захад ад Дзвінска, Свянцян, Пінска. Савецкі ўрад гатовы заключыць мір на вельмі цяжкіх умовах, страціўшы пры гэтым 150 тысяч квадратных кіламетраў тэрыторыі. Але дзеяннямі Троцкага, які ўзначальваў савецкую дэлегацыю, перагаворы сарваны.

**Год 1918.** Перамір'е заканчваецца. 18 лютага германскія войскі пачынаюць наступленне і да пачатку сакавіка займаюць Мінск, Оршу, Полацк, падыходзяць да Віцебска, Гомеля. Неакупіраванымі засталіся толькі 14 паветаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Савецкая Расія вымушана прыняць ультыматыўныя патрабаванні Германіі. 3 сакавіка ў Брэст-Літоўску падпісаны мірны дагавор, па якому чатыры пятыя этнічнай тэрыторыі Беларусі былі аддадзены акупантам. Па ўмовах дагавора тэрыторыя Беларусі падзялілася па лініі Дзвінск — Свянцяны — Ліда — Пружаны — Брэст. Частку акупіраванай тэрыторыі (Віленшчыну і Гродзеншчыну) Германія планавала перадаць Літве, землі на поўдзень ад Палескай чыгункі — Украіне. Тэрыторыя на поўдзень ад падзяляльнай лініі разглядалася як прэрагатыва Расійскай Федэрацыі.

Брэсцкі мірны дагавор — гэта першы ў ХХ стагоддзі падзел беларускіх зямель. Праўда, праіснаваў дагавор усяго паўгода і быў ануляваны ў сувязі з рэвалюцыяй у Германіі. Але наперадзе былі іншыя падзеі.

**Рыжскі мірны дагавор.** Драматычнай старонкай упісаны ён у гісторыю Беларусі. 18 сакавіка 1921 года ў Рызе паўнамоцныя прадстаўнікі РСФСР і УССР, з аднаго боку, і Польшчы, з другога, падпісалі "канчатковы і заснаваны на ўзаемных адносінах мір", што спыніў кровапралітную савецка-польскую вайну. Пры падпісанні гэтых дагавораў Беларусь як самастойная рэспубліка (абвешчаная, дарэчы,



*Кастрычнік 1939 г. Беласток. Вяртанне бежанцаў у родныя мясціны.*



зноў спрабуюць зарэгістраваць КДП.

Але ФБП і КДП пакуль застаюцца ў розных вагавых катэгорыях. Па-першае, колькасць членаў у адным аб'яднанні і другім нават не паддаецца параўнанню. Федэрацыя дэкларуе лічбу 4 мільёны чалавек. Кангрэс прызнае сціплую лічбу сваіх прыхільнікаў — 16 тысяч чалавек. Такім чынам, афіцыйныя прафсаюзы маюць велізарную задавальняе рабочых, таму на некаторых прадпрыемствах да 70 працэнтаў працаўнікоў выказваюць сімпатыі тым жа свабодному ці незалежнаму прафсаюзам. Але зрабіць выбар на карысць апошніх многім працуючым не дазваляе звычайны страх перад кіраўніцтвам, паколькі ўлады не вельмі прыязна ставяцца да незалежных прафсаюзаў. Дарэчы, пазіцыя ўладаў цалкам зразумелая: ва ўмо-

# АБАРОНЫ СВАІХ ПРАВОЎ

колькасную перавагу. А калі ўлічыць, што кожны член прафсаюза ў Беларусі адлічвае на рахунак прафесійнай арганізацыі 1 працэнт свайго заробку, то, па-другое, і матэрыяльнае становішча прафсаюзаў непараўнальна рознае.

Але апошнім часам у галіне папулярнасці афіцыйныя і альтэрнатыўныя прафсаюзы пачалі сур'ёзна канкурыраваць. Гэта тлумачыцца тым, што на глебе абароны правоў чалавека працы альтэрнатыўныя прафсаюзы, як правіла, займаюць радыкальную і жорсткую пазіцыю. Існуе нямала прыкладаў, калі падчас акцый пратэсту на адным і тым жа прадпрыемстве пярвічная арганізацыя Свабоднага прафсаюза займала жорсткую пазіцыю і не ішла на ўступкі наймальніку, а афіцыйны прафсаюз займаў згаджальніцкую пазіцыю, нават калі гэта разыходзілася з інтарэсамі яго членаў.

Падобнае тлумачыцца адным вельмі істотным адрозненнем паміж альтэрнатыўнымі і афіцыйнымі прафсаюзамі. У альтэрнатыўных арганізацыях забаронена быць членам прафсаюза прадстаўнікам кіраўніцтва прадпрыемства. Такая практыка, дарэчы, прынята ва ўсім свеце. А вось афіцыйныя прафсаюзы фарміруюцца ў тым ліку і за кошт кіруючага персаналу прадпрыемстваў. У такім выпадку атрымліваецца парадокс: у арганізацыі, якая павінна адстойваць правы працоўнага чалавека перад наймальнікам, аказваецца сам наймальнік. Зразумела, паўнацэннага дыялога паміж працаўніком і наймальнікам па гэтай прычыне ніколі не адбудзецца. Таму гэты прынцыповы недахоп з'яўляецца асноўнай прычынай часткай згаджальніцкай пазіцыі афіцыйных прафсаюзаў.

Паводле сацыялагічных даследаванняў, такое становішча не вельмі вах, калі ў краіне пераважная большасць прадпрыемстваў мае дзяржаўную форму ўласнасці і калі менавіта дзяржава, такім чынам, выступае ў ролі наймальніка, уладам выгадна мець прафсаюзы, з якімі лягчэй дамовіцца ў складаных сітуацыях.

Пераважная большасць членаў афіцыйных прафсаюзаў сталі іх членамі фармальна. Прычым многія нават не ўсведамляюць, што прафсаюз — справа абсалютна добраахвотная, што ў чалавека заўсёды ёсць права выбару. Кіраўніцтва афіцыйных прафсаюзаў само прызнае, што многія члены іх арганізацый плацяць прафсаюзныя складкі як звычайны падатак, па сутнасці не задумваючыся і не ўсведамляючы, куды ідуць гэтыя грошы.

У альтэрнатыўных прафсаюзаў такога няма. Усе члены гэтых прафесійных арганізацый зрабілі свой выбар свядома. Таму і рабочая самасвядомасць унутры альтэрнатыўных прафсаюзаў больш высокая, чым у афіцыйных. Гэта і ёсць тайная зброя альтэрнатыўных прафсаюзаў. Менавіта ў гэтым схаваны вялікі патэнцыял, які можа заявіць пра сябе ўжо ў недалёкай будучыні. Бо працоўны клас паступова пачаў бачыць розніцу паміж альтэрнатыўнымі і афіцыйнымі прафсаюзамі, тым больш, што дэмакратычныя прафсаюзы апошнім часам вядуць актыўную работу па інфармаванню грамадзян. У выніку гэтага ў апошнія гады намеціліся тэндэнцыя адтоку членаў афіцыйных прафсаюзаў і пераход грамадзян у альтэрнатыўныя. Кіраўніцтва афіцыйных прафсаюзаў разумее сваё становішча і прызнае, што калі не здолее належным чынам абараніць правы сваіх членаў, то апошнія знойдуць іншага абаронцу.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ







# ДАЧНЫЯ КЛОПАТЫ

Дачнікі... У іх побыце праяўляецца сутнасць нашага сённяшняга жыцця. Не так даўно гараджанам забаранялася мець дачы. Калі ж такое скончылася, пачаўся сапраўдны "дачны бум". Усе кінуліся будаваць — і дамамі, катэджамі абрасло не толькі наваколле Мінска, але і амаль усіх паселішчаў Беларусі. Многія паставілі на дачных участках не сціплыя домікі, а цэлыя харомы: двух-, трох-, чатырохпавярховыя, з усімі зручнасцямі, гаражамі, лазнямі і г. д.

І ўсё ж пануе дача ў Беларусі і ў заходніх краінах — супрацьлеглае. Там дача — месца адпачынку. У Беларусі — дапаможная гаспадарка, дзе можна папоўніць запасы прадуктаў, зрабіць нарыхтоўкі на зіму.

Што ні кажы, а дача — рэч добрая. У гэтым я пераконваўся шмат разоў. У тым ліку ў дачным пасёлку станкабудаўнічага завода імя Кірава пад Мінскам. Адстукалі колы электрычкі — і ты ў цішыні лесу, вакол свежае паветра. Ні табе гарадскога тлуму, ні сталічнага гаму. Як жа прыемна апынуцца ў такім спакоі. Вось людзі і акунаюцца ў яго кожны дзень: тыя, што працуюць у Мінску, рэгулярна наязджаюць, а многія пенсіянеры жывуць там цэлае лета.

І усе працуюць на сваіх пяцішасці "сотках". Участачак хоць і невялікі, але нямала на ім можна вырасціць, а пасля законсерваваць, засаліць, замарынаваць.

Так робяць і ў сям'і Паўла Слабейкі. Мы засталі яго за хатнімі клопатамі. Ён сам, тэхнік Мінскага аўтазавода, жонка Тамара Аляксандраўна, унучка Таня ўвіхаліся на агародзе, збіралі кабачкі.

— Добрыя выраслі, — задаволена Тамара Аляксандраўна. — Шмат намарынуем на зіму. Яны смачныя атрымліваюцца, я іх вельмі люблю.

— І я, асабліва пад чарку, — жартуе Павел Паўлавіч.

У Анастасіі Пасюковай і яе мужа Івана Раманавіча клопатаў ужо менш. Гаспадыня, жвавая, гаварказ, расказала, што з агародам у асноўным управіліся.

— Столькі наставілі банак з усялякай агароднінай, што за зіму, можа, не адолеем. Хаця — дзяцей пачастуем, у Мінску дзве дачкі жывуць.

Анастасія Максімаўна прыехала ў сталіцу з Магілёўскай вобласці ў 1955 годзе, уладкавалася на станкабудаўнічы завод. Там і з будучым мужам пазнаёмілася. Абжыліся, жыццё наладзілася.

— Я задаволена, паглядзіце, якая ў нас дача, якая абстаноўка, — пахвалілася Анастасія Максімаўна.

Дача сапраўды прыгожая, двухпавярховая. Тут ёсць усё, што трэба для нармальнага жыцця.

Валянціна Камар такая ж прывеслівая жанчына. Працуе загадчыцай аддзялення дзіцячай бальніцы. І ўся яе сям'я — медыцынская. Муж Віктар Фёдаравіч — загадчык аддзялення ў той жа бальніцы.

— І я там працую, — падала голас з агарода дачка Оля.

Яна скончыла медвучылішча, медсястра. А брат яе Віктар пасля медінстытута — траўматолаг.

Дача — уся ў кветках. Цяпер, увосень, яны асабліва прыгожыя. Здзіўляюць, пераліваюцца ў пагодных сонечных промнях рознымі колерамі.

— Я вельмі люблю кветкі, — сказала гаспадыня.

Іх участак — кветкавы рай. Ды і агародніна ўрадзіла. Яе на зіму нарыхтавалі ў розных відах.

Лета выдалася гарачым, як ніколі. Ды і ў верасні дні сонечныя, ціхія. Вельмі прыемная пара. І дачнікі стараюцца пакарыстацца ёю. Адны заканчваюць убіраць гародніну. Другія проста адпачываюць. Трэцця даводзяць да ладу дачныя дамы. Беларускі дачнік ніколі без справы не застаецца.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Уладзімір СТАСЕВІЧ дэманструе свой ураджай; пенсіянеры Настасся і Іван ПАСЮКОВЫ зрабілі надзейны запас; Уладзімір і Аліна МАТВЕЕНКІ, рабочыя завода імя С. Кірава на сваёй "бахчы".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

1 студзеня 1919 года) не разглядалася.

Яшчэ ў перыяд стварэння Польскай дзяржавы (канец 1918 — пачатак 1919) польскія войскі без аб'яўлення вайны пачалі захоп заходніх тэрыторый Беларусі. Створаны ў лютым 1919 года савецкі Заходні фронт не змог спыніць інтэрвентаў. Да лета 1919 года польскія легіянеры прайшлі далей на ўсход, занялі Мінск. Адхіліўшы некалькі мірных прапаноў і тэрытарыяльных уступак савецкага ўрада, паляки, нацэленыя на аднаўленне Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай, да красавіка захапілі Мазыр, Калінкавічы, Рэчыцу. Але польскі ўрад не разлічыў сваіх сіл. У маі на чале з камандармам Тухачэўскім пачынаецца контрнаступленне. Асабліва паспяховым яно было ў ліпені: вызвалены Мінск і Вільня. Чырвоная Армія выходзіць да этнічных межаў Польшчы. І тут у справу ўмешваецца Антанта. Па даручэнню яе Вярхоўнага савета міністр замежных спраў Вялікабрытаніі лорд Керзан у ноце ўраду РСФСР прапануе ваюючым бакам заключыць перамір'е і адвесці войскі па лініі Гродна — Ялаўка — Няміраў — Брэст-Літоўск і далей на ўсход ад Перамышля да Карпат. Гэта першае выкарыстанне ў справе славутай "Лініі Керзана". Пазней яна яшчэ не раз выплыве ў гісторыі войн і тэрытарыяльных спрэчак. Выпрацавана гэтая лінія яшчэ ў 1919 годзе на Парыжскай мірнай канферэнцыі Камісіяй па тэрыторыях і ўяўляе сабой граніцу, устаноўленую па этнічнаму прынцыпу паміж Польшчай і яе ўсходнімі суседзямі — Беларуссю і Украінай.

На мірнай канферэнцыі ў Спа (Бельгія) польскі ўрад прызнае "Лінію Керзана" ўсходняй мяжой Польшчы. Але неўзабаве адмаўляецца ад сваіх абавязацельстваў. Сталі вядомыя вынікі баёў на Вісле: Чырвоная Армія імкліва адкатваецца на ўсход. Фронт зноў няўмольна набліжаўся да Мінска. Вайну трэба было спыніць любой цаной. І цана была заплачана. Падпісаўшы Рыжскі мірны дагавор пасля 5 месяцаў цяжкіх перагавораў, Расія выходзіла з вайны, аддаўшы Польшчы Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Згодна з артыкуламі дагавора, абодва бакі адмаўляліся ад умяшання ва ўнутраныя справы. Польскі ўрад абавязаўся прадаставіць беларусам, рускім і ўкраінцам на сваёй тэрыторыі ўсе правы для свабоднага развіцця нацый. Такія ж правы гарантаваліся палякам на тэрыторыі БССР і УССР.

**Сярэдняя Літва.** Нягледзячы на свае невялікія памеры і нядоўгае існаванне, гэтая міні-дзяржава пакінула свой след у гісторыі польскага і літоўскага народаў, стаўшы прычынай так званага Віленскага канфлікту 1919 — 1939 гадоў. Самыя непасрэдныя адносіны да гэтых бурных падзей маюць і беларусы, бо на тэрыторыі Сярэдняй Літвы яны складалі большасць насельніцтва. Горад Вільня з даўніх часоў быў духоўным і інтэлектуальным цэнтрам беларусаў, затым своеасаблівай сталіцай Заходняй Беларусі. Але звернемся непасрэдна да падзей.

Сярэдняя Літва была створана 12 кастрычніка 1920 года ваенным дэкрэтам польскага генерала Люцыяна Жэлігоўскага. У склад гэтага новага дзяржаўнага ўтварэння ўвайшлі захопленыя яго войскамі тэрыторыі Віленскага, Троцкага, Свянцянскага, Лідскага, Ашмянскага і Браслаўскага паветаў. Сталіцай была аб'яўлена Вільня. Як жа ўсё гэта адбылося?

У выніку імклівага наступлення польскай арміі з-пад Варшавы ў жніўні 1920 года абвастрылся польска-літоўскі канфлікт па Віленшчыне. У справу ўмяшалася Ліга нацый. Згодна з Версальскім пагадненнем, яна была заклікана гасіць канфлікты паміж маладымі краінамі Еўропы. Па яе патрабаванню Польшча і Літва пачалі перагаворы, узяўшы за аснову ў тэрытарыяльным пытанні "Лінію Керзана". 7 кастрычніка быў падпісаны дагавор аб перамір'і. Але дзейнічаў ён усяго 2 дні. 9 кастрычніка адбылася так званы "бунт генерала Жэлігоўскага", дывізія якога самавольна захапіла Вільню. Літоўцы пакінулі горад без бою і адвялі свае часці пад Коўна.

**Святлана ЖЫДКАЯ,**
**БелТА.**

**(Працяг будзе).**



*Дэпутаты народнага сходу Заходняй Беларусі — Р. ГАБЕЦ, СЯЎРУК, БАЎСЮК, БАРЫСЕВІЧ. г. Беласток, 1939 год.*



# ...ЛЬШ, ЧЫМ САМІМ САБОЮ»

## ...МЫ Адама БАБАРЭКІ

пяць руб./лёў). Любыя мае, жывіце шчасліва, слухайцеся ўва ўсім мамы, любіце яе і не забывайце свайго татачку. Галоўнае ж вучэцеся заўсёды на выдатна, будзьце выдатніцамі, і праз гэта будзе шчаслівы Ваш татачка. Не сумуйце, праз колькі год убачымся і будзем разам. Бывайце здаровы. Вас цалуе моцна, моцна Ваш татачка. Пацалуйце ад мяне мамуську. Пішэце, любыя, і часцей і падрабязней пра сваё жыццё. То ж Вы для мяне цяпер — гэта што яснае сонейка. Знаць пра Вас, мець ад Вас часта лісты — гэта найбольшая для мяне радасць і шчасце. Пра сябе з часам напішу падрабязна. Пакуль я здароў. Вось толькі вушы застудзіў і дастаў запаленне іх. Спадзяюся, хутка пройдзе. Бывайце здаровыя і шчаслівыя. Цалую Вас моцна, моцна. Ваш татачка.

**12.VII.1938 г.**

Дарагія і любыя мае Анечка, Лорачка і Лялечка! Дзень добры Вам! Пішу Вам з гэтага пункту ўжо трэці ліст. Хочацца паведаміць, што я яшчэ жыў і з большага здароў. Кажу з большага, бо вушы мае яшчэ не паправіліся. Агульны стан здароўя ніішто. Трымаюся яшчэ. На работы яшчэ не хадзіў. Хутка пэўна ж пайду. Работы агульныя: высечка лесу, земляныя работы, словам, пракладка чыгуначнай трасы.

Любыя мае, парадаваць мне Вас няма чым. Пісаць аб сваіх перажываннях ня буду. Буду мець магчымасць калі-небудзь, дык раскажу. Скажу толькі адно, што збалелася сэрца па Вас. Ростань з Вамі для мяне гэта што раздваенне на дзве часткі ўсяе мае істоты. Да болю, самага сапраўднага, фізічнага, даходзіць сум і туга па Вас.

У мінулых лістах я пісаў, што добра было б, калі б табе, Анечка, удалося дастаць і прыслаць мне простыя скураныя боты памерам 41. Тут яны вельмі дарэчы былі б. Калі ж не ўдасца, ня важна, не турбуйся. Выдадуць казённыя чаравікі, а можа нават і боты. Болей з рэчаў пільнае патрэбы ні ў чым пакуль што не адчуваецца востра. Што да прадуктаў, то сюды можна слаць усё, што толькі магчыма. Самае ж патрэбнае тут — гэта часнок. Добра, калі Вы, любыя мае, вышлеце мне невялічкую пасылку, палажыўшы ў яе крыху тлушчаў, што хутка ня псуюцца (сала) і рэшта што самі здумаеце. Усё тут добра, калі ёсць. За ўсё будзе вялікі дзякуй. Не забудзьцеся толькі пакласці паперы, канвертаў, паштовак і алоўкаў (простых і хімічных).

Ах, які жах, то ж кожны мой ліст не абмінае пасылкі. Ведаеце, любыя, як цяжка ўсё гэта пісаць, асабліва, калі ўздумаеш пра свой доўгагадовы тэрмін затачэння. Адна толькі ўцеха і засталася — гэта Вы, адна толькі радасць, што слаўныя нашы дзеткі вучацца выдатна, і хочацца верыць, што і будуць надалей таксама вучыцца выдатна, будуць таксама выдатніцамі і кончаць школу бяз мяне з пахвальнымі граматамі. Любыя і слаўныя мае дзеткі, слухайцеся ва ўсім мамы, будзьце дружнымі паміж сабою, вучыцеся выдатна, і Вы будзеце шчаслівыя, разам з Вамі будзе шчаслівы і Ваш татачка. Ведайце, любыя, што татачка Вас ніколі не забудзе, што ён моцна Вас любіць і ўсё сваё жыццё, якое яшчэ дастанецца на маю долю пасля адбыцця тэрміну, будзе прысвечана выключна Вам. Як мне хочацца бачыць Вас шчаслівымі ў жыцці. Пішыце, любыя, лісты свайму татачку. Пішыце ўсё падрабязна. Кожнае Ваша слова — гэта вялікая радасць для мяне і ўцеха. Вы — што тое сонейка, якое асвятляе мрок майго зняволення.

Анечка любая, ты шчаслівейшая за мяне: на тваю долю выпала выхаванне нашых слаўных дзетак. А мне ці давядзецца бачыць іх дзецьмі? То ж калі вярнуся дадому, яны ўжо будуць зусім дарослыя, а ня дзеці. Як ні цяжка, Анечка, табе, не сумуй і роспачы не аддавайся. Глядзі дзетак — нашу радасць, наша шчасце. Анечка, пішы часцей і падрабязней пра ўсіх Вас і Ваша жыццё. Ці жыва яшчэ мая мама і як маецца Ігнась?

Бывайце здаровы і шчаслівы. Моцна моцна цалую Вас, Анечка, Лорачка і Лялечка. Ваш тата Адам.

(Працяг будзе).

ЗАПАВЕДНЫЯ МЯСЦІНЫ



# НАВАСЁЛЫ З БЕЛАВЕЖЖА

## ПЯЦЬ ГАДОЎ НАЗАД ЯНЫ ПРЫБЫЛІ Ў НАЛІБОЦКУЮ ПУШЧУ

У 70-я гады стан зубрынага статка, які жыў у Белавежскай пушчы, сур'ёзна пагоршыўся. Прычына — недастатковая колькасць натуральных кармоў, вялікая скучанасць гэтых магутных звяроў. У асенне-зімовы перыяд здараліся частыя выпадкі захворванняў, зніжэнне пладавітасці і прыросту.

Спецыялісты задумаліся над тым, як выйсці з гэтай сітуацыі. Было вырашана частку зуброў перасяліць на новае месца жыхарства. Абралі Налібоцкую пушчу. Яна болей за ўсё падыходзіла для пражывання белавежскіх прыгажуноў.

І вось супрацоўнікі Валожынскага лясгаса разам з калегамі з Налібоцкага заказніка пачалі наладжваць "жыллё" для перасяленцаў. Былі пабудаваны зубрыныя вальеры, кармасховішча, нарыхтавана ежа для гасцей.

Да пачатку зімы 1994 года падрыхтоўка была закончана, і ў лютым першыя чатыры лясныя прыгажуны спусціліся па трапу самалёта, на якім яны былі дастаўлены з Белавежскай пушчы, на валожынскую зямлю.

Гэта была сур'ёзная па сваёй значнасці падзея для Валожынскага раёна, і да месца прыбыцця "дэлегацыі" сабралася шмат людзей, каб паглядзець на легендарных белавежскіх патрыярхаў.

Як і мае быць сапраўдным рыцарам, зубры прапусцілі наперад самку, якая з гонарам і годнасцю ступіла на зямлю, а потым, пакруціўшы вялікай прыгожай галавой вакол, лёгка і імкліва паімчала ў глыб лесу, падымаючы за сабой беласнежны шлейф. Услед за першай групай у Налібоцкую пушчу даставілі яшчэ адзінаццаць белавежскіх прыгажуноў.

З таго часу работы егерам прыбавілася. Гасцей акружылі самай пільнай увагай. Каля вальера было наладжана кругласутачнае дзяжурства, каб навасёлы знаходзіліся пад пастаянным наглядам і пры першай неабходнасці ўсе іх патрэбы былі задаволены. Каб госці не адчувалі недахопу ў ежы, іх рэгулярна падкармлівалі нарыхтаванымі прыпасамі.

Жывую цікавасць выклікалі навасёлы і ў аматараў прыроды. З'явілася нямала жадаючых паглядзець сваімі вачамі на лясных багатыроў. Да месца іх пражывання пачалося цэлае паломніцтва. Экскурсіі ішлі адна за адной. У кнізе водгукаў, спецыяльна заведзенай для наведвальнікаў, з'явілася нямала слоў захаплення.

З таго часу прайшло пяць год. Нядрэнны тэрмін для акліматызацыі і ўладкавання на новым месцы. Тым больш, што зубрыны век роўны 28—30 гадам. Белавежскія навасёлы прыжыліся ў Налібоцкай пушчы і адчуваюць сябе як дома. Новае асяроддзе пражывання прыйшлося ім да густу, і зубрыная сям'я пачала разрастацца.

А на парозе ж XX стагоддзя еўрапейскі зубр быў на мяжы вымірання. І толькі дзякуючы стараннем вучоных, усіх, хто неабыякавы да прыроды, гэтых моцных і прыгожых звяроў удалося выратаваць. Цяпер іх на нашай планеце каля трох тысяч. Зубры жывуць у заапарках, у спецыяльных вальерах, дзе іх разводзяць, і на волі. Каля 400 чыстакроўных белавежскіх зуброў пражываюць на тэрыторыі нашай рэспублікі. І цяпер перад спецыялістамі стаіць задача цалкам вярнуць гэтых прыгажуноў у прыроду, рассяліць іх у месцах іх ранейшага пражывання.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

ВЫБРАННІКІ ВЕЧНАСЦІ

# СПАСЦІЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ ДУШЫ

**● Алена Яскевіч,**
*кандыдат філалагічных навук.*

І тут драматург Аляксей Дудараў дае асабіста мастакоўскае вытлумачэнне адной з важнейшых, ключавых антыномій нацыянальнай (увогуле, усходнеславянскай) антыноміі:

ДАБРЫНЯ. А маці была простаю
дзяўчынай —
Цнатлівай, сціплай…
Князь яе любіў…
І сына гадаваў у сям'і
як князя…
ЛЮБАВА. Па старадаўнім звычаі
я мушу
Прад шлюбным ложкам
мужа разуваць…
Дык як мне разуваць
рабыні сына?
ДАБРЫНЯ. Ён князь… І Святаслава
сын…
Мне… гэта… князю…
так і перадаць?
Ён жа цябе… Ён жа
цябе… кахае,
Рагнеда, ён жа трызніць…
Ён не спіць…
Ты для яго вышэй
багоў і сонца.
ЛЮБАВА. З пятлі яе дасталі…
МАМУЛЬКА. Адрэзала нажом
сваю касу
І з валасоў спляла сабе
вяроўку…
Каб я туды выпадкам
не зайшла…
ЛЮБАВА. Яна з тугі па ім памерці
можа
Ці кінецца ў Дзвіну…
Князь, я прашу…
УЛАДЗІМІР. На Полацк!
Пад мячы ўсё! Пад агонь!
Хай гэты горад у пакутах
згіне!
Рагнеду мне! Астатняе
— дружыне!

Увогуле вобраз душы як пачатак глыбіннай малітоўнасці, узыходжання да духоўнасці сённяшняй паэзіі ў беларускай літаратуры 80-х—90-х гадоў стаўся скразным і стрыжнявым. Як тут не пагадзіцца з гэтай нагоды са словамі Р. Баравіковай: "Слова — словам, але ж цяжка абвергнуць, што Паэзія прысутнічае ў тых радках, дзе якраз і ёсць тая самая праца душы. Ва ўсякім выпадку такая паэзія несмяротная, як і сама душа. Розум можа зарыфмаваць, творчы вопыт можа ўвагнаць верш у пэўную форму, а калі працуе душа, радок пульсуе, як жывая матэрыя, у гэтым і загадка, і тайна, і вышыня сапраўднай паэзіі, пра якую мы гаворым — ад Бога".

Лірычная гераіня Баравіковай у нечым вельмі роднасная дудараўскім пакаёўцы Алене, каханай князя Вітаўта і Рагнедзе з "Палачанкі" менавіта тым вялікім коштам, якім яны плацяць за глыбіню сваіх пачуццяў:

Калі нехта пяшчотку забраў
і нічога ўзамен не пакінуў,—
адшукаю крупіцу дабра
у сабе, каб святлець з успаміну.
Дзе другая сказаць не змагла,
там пасею ласкавае слова,
каб сатлелая плоць зберагла,
як прызнанне ў заўсёдны
любові.
І прыдасца за ўсё даражэй,—
цішыні чабаровае лапік,
што сініца з кустоў сцеражэ,
каб апець, а найболей —
аплакаць,—

і спадарожніцай у гэтым духоўным пілігрымстве да садоў Любові-Агапіі, як і ў лазанскай лірыцы А. Міцкевіча да Радзімы-Аркадзіі,— сляза:

Паліліся мае слёзы,
як дождж чысты і краплісты,
На маленства,
што было анельскім, сельскім,
На юнацтва час мой шумны,
неразумны,
А таксама на век сталы,
век няўдалы:
Паліліся мае слёзы,
як дождж чысты і краплісты.

Некаторыя даследчыкі папракаюць характэрных герояў Р. Баравіковай і А. Дударава "ў плыткасці і фальклорнай дэкаратыўнасці" на карысць фундаменталізму галоўных дзеючых асоб. Але ці могуць быць сапраўдныя пачуцці і подзвіг душы нецікавымі і штучнымі?! І ці баравікоўскія Саламея і Барбара і дудараўскія Алена і Рагнеда не генетычныя вобразыадгаліненні міцкевічаўскай Гражыны, якая, паводле У. Мархеля, дзеля выратавання Радзімы і абароны гонару навагрудскага князя Літавора (што збіраўся паяднацца з крыжакамі супраць Вітаўта) ці, можа, дзеля адкрыцця яму вачэй на яго памылкі і нежаданне прыслухацца да разумных парад, яна ў даспехах мужа павяла яго дружыну на тых, з кім ён хацеў уступіць у хаўрус, і была смяротна паранена.

І сакрэт поспеху не толькі вышэйпамянёных, але і кожнага ўдумлівага пісьменніка — у творчым засваенні вопыту гісторыі.

А. Дудараў імкнецца, на маю думку, дапамагчы чытачу ўбачыць рысы праведнасці, дабрадзейнасці сваіх герояў праз няпростыя антыноміі іх жыцця:

Як крыніцы
З-пад сэрца зямлі,
Як птушкі
У блакіт нябесны,
Як вецер
У светлы бор,
Як стрункі травы
Да сонца,—
Адзін да другога
Прабіваюцца
Добрыя людзі,

знайсці ў іх парасткі чысціні — правобраза будучай святасці. Уладзімір, герой п'есы А. Дударава "Палачанка", напачатку не пагаджаецца на чалавечыя ахвяры язычніцкім багам:

Але Ўладзімір кляўся
наўгародцам,
Ахвяр людскіх багам больш
не прыносіць.
Як жа цяпер парушыць
слова князю,—

і сам першы ідзе пад ахвярнае жэрабя:

Мой лёс — ваш лёс,
ваша жыццё.
Я роўны вам, бо вы мае браты.
Я буду поплеч з вамі тут стаяць.
І хай багі з усіх нас
выбіраюць,..—

здзіўляе ўсіх сваім адданым высокім каханнем да князёўны Рагнеды:

Святлее ўсё наўкол…
Але ж нядаўна наступіла ноч!
Сваім з'яўленнем
ты яе прагнала,
Я сонца бачу…
Я пакахаў. Я пакахаў яе.

Фактычна драматург стварае, падобна Шэкспіру, Лопэ дэ Вэга, Кальдэрону, сваю версію гісторыі, уласнае яе вытлумачэнне, піша свой летапіс — хроніку нацыянальнага жыцця, прыадкрывае таямнічую повязь стагоддзяў.

Як сведчыць Томас Стэрнз Эліёт, "тая повязь, якой падпарадкоўваецца паэт, не аднабаковая сувязь; калі ствараецца новы мастацкі твор, гэтая падзея аднолькава закранае іншыя рэчы, якія яму папярэднічалі… І таму, хто прызнае гэтую думку аб упарадкаванасці і сувымернасці літаратуры Еўропы, не падасца беспадстаўным меркаванне, што мінулае гэтак жа відазмяняецца пад уздзеяннем сучаснага, як сучаснае адчувае на сабе накіраванае ўздзеянне мінулага".

Сцвярджэнне Эліёта падмацоўваюць і факты з мастацкай біяграфіі самога Аляксея Дударава, калі пры пераходзе ад сучасных бомжаваэпатажных герояў, якія размаўлялі на прозе-трасянцы, для засваення летапіснай гісторыі Беларусі велічныя постаці старадаўняй Айчыны пачалі гаварыць у п'есах слыннага драматурга шляхетным пяцістопным ямбам, як героі шэкспіраўскіх трагедый.

У сваіх творах Р. Баравікова, А. Дудараў будуюць храм для Векавечнай беларускай Душы праз чысціню, любоў, спагаду, гэтыя найсвяцейшыя якасці, якія, як сцвярджаюць філосафы і багасловы, цэментуюць і трымаюць Сусвет; імкнуцца ўсёй сваёй творчасцю сцвердзіць невычэрпную сілу, бессмяротнасць нацыянальнай Душы праз радасць, асабістае і народнае шчасце, мужнасць герояў, як гарманічны саўдзел у пабудове больш светлага і мудрага жыцця.

Заканчэнне.
Пачатак у № 36.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# РЭЛІГІЙНА-ЦАРКОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

● **Ларыса ЯЗЫКОВІЧ**, *кандыдат гістарычных навук.*

СКЛАД беларускай эміграцыі па рэлігійнай прыналежнасці вельмі неаднародны, што з'яўляецца вынікам гістарычнага развіцця беларускага народа. Пераважная большасць беларускіх эмігрантаў — праваслаўныя, ёсць таксама католікі, уніяты, пратэстанты. Пачынаючы з самых ранніх этапаў эміграцыі беларусаў, царква займала ў іх жыцці значнае месца. Яна, па сутнасці, з'яўлялася для іх першай простай і зразумелай формай сацыяльна-грамадскай арганізацыі, дапамагала падтрымліваць узаемныя сувязі і ўвогуле адыграла значную ролю ў тым, што, будучы адарванымі ад роднай зямлі, ад сваіх каранёў, беларускія эмігранты змаглі пэўным чынам захаваць свае нацыянальна-культурныя традыцыі. Пры цэрквах вялася значная культурна-асветніцкая дзейнасць, пры іх ствараліся бібліятэкі, школы для дзяцей эмігрантаў, розныя гурткі, творчыя аб'яднанні, хоры і г. д. Узнікалі палітычныя аб'яднанні, жаночыя, маладзёжныя суполкі, якія ў сваёй дзейнасці цесна супрацоўнічалі з царквой. Друкаваліся перыядычныя выданні — газеты, часопісы, бюлетэні рэлігійнага накірунку, якія аказвалі істотны ўплыў на самасвядомасць людзей.

Каля 80 працэнтаў беларускіх эмігрантаў (па звестках эмігранцкага друку) прытрымліваюцца праваслаўнага веравызнання. Але праваслаўныя беларусы не складаюць адзінага цэлага, яны падзяляюцца на шматлікія накірункі. Частка іх далучылася да Рускай праваслаўнай царквы. Неабходна падкрэсліць, што ў наш час налічваецца не менш як тры рускія праваслаўныя царквы, якія з большай альбо меншай актыўнасцю дзейнічаюць за межамі Расіі. Папершае, гэта Маскоўская патрыярхія, альбо Руская праваслаўная царква, больш як 120 прыходаў якой знаходзяцца за межамі былога СССР.

За межамі Расіі таксама дзейнічае Замежны архірэйскі сінод Рускай праваслаўнай царквы, у склад якога ў 20-я—30-я гады ўваходзілі прадстаўнікі вышэйшага духавенства, якія пакінулі краіну пасля 1917 года. Зараз гэтай царквой кіруюць іх паслядоўнікі, якія спынілі свае адносіны з Маскоўскай патрыярхіяй. Ад Замежнага архірэйскага сіноду аддзяліўся экзархат, які адышоў у падначаленне Візантыйскага патрыярха. Некаторая колькасць праваслаўных беларусаў, якія знаходзяцца ў эміграцыі ў краінах Заходняй Еўропы, а таксама ЗША, Канадзе, Аўстраліі, належаць да юрысдыкцыі гэтых цэркваў. Акрамя таго, у ЗША дзейнічае Амерыканская праваслаўная царква, якая атрымала ў 1970 годзе аўтакефалію (незалежнасць) ад Маскоўскай патрыярхіі.

У дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі, а таксама ў замежнай статыстыцы не існавала тэрміну "беларускі эмігрант". Выхадцаў з беларускіх зямель Расійскай імперыі вызначалі не этнічна, а на падставе іх веравызнання, г. зн. прылічвалі да рускай эміграцыі — як праваслаўных альбо да польскай — як католікаў. Гэта ж датычыць і беларусаў, якія пасля 1921 года эмігрыравалі з Заходняй Беларусі. Праваслаўная і каталіцкая цэрквы знаходзіліся пад юрысдыкцыяй Расіі і Польшчы. Беларускія эмігранты да другой сусветнай вайны заставаліся пад рэлігійным кантролем палякаў і рускіх. Намаганні ў накірунку беларусізацыі праваслаўнай царквы на Беларусі былі ў 20-я—30-я гады, але яны скончыліся няўдачай.

Польскі ўрад дабіўся ўтварэння праваслаўнай царквы ў Польшчы, незалежнай ад Масквы. Аўтакефалію Польскай праваслаўнай царквы ў 1924 годзе прызнаў Візантыйскі патрыярх. Вернікамі гэтай царквы былі ў асноўным беларусы і ўкраінцы, але іх у Польшчы лічылі "праваслаўнымі палякамі". Гэтая царква адыгрывала адмоўную ролю для этнічных беларусаў, спрыяла іх паланізацыі. Пасля другой сусветнай вайны епіскапат і частка вернікаў царквы, у тым ліку беларусаў, апынуліся на эміграцыі. У Польшчы ў 1949 годзе была ўтворана Польская аўтакефальная праваслаўная царква, якая прызнала над сабой верхавенства Маскоўскага патрыярха. Сёння значная колькасць беларусаў (па розных меркаваннях, ад 200 да 500 тысяч чалавек), якія пражываюць у гэтай краіне, асабліва на сваіх этнічных землях у Беластоцкім ваяводстве і Падляшшы, з'яўляюцца вернікамі гэтай царквы.

Беларусы пераважаюць колькасна ў Беластоцка-Гданьскай і Варшаўска-Бяльскай епархіях, дзе існуюць прыходы, да 90 працэнтаў веруючых у якіх — беларусы. Такіх прыходаў можна налічыць каля 100. У сваёй дзейнасці царква карыстаецца царкоўнаславянскай мовай, а таксама мовамі сваіх веруючых. Са студзеня 1988 года пачаліся казанні (пропаведзі) на беларускай мове ў беластоцкай царкве Марыі-Магдалены.

Спроба ўтварыць аўтакефальную праваслаўную царкву на Беларусі адбылася падчас нямецкай акупацыі. Ведаючы негатыўныя адносіны Маскоўскай патрыярхіі да ідэі незалежнай беларускай царквы і такую ж пазіцыю партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва СССР, беларускія рэлігійныя дзеячы выкарысталі акупацыю Беларусі немцамі і часовую адсутнасць там савецкай улады для таго, каб абвясціць незалежнасць праваслаўнай царквы на Беларусі, палічыўшы Берлін меншым злом, чым Масква ці Варшава. У жніўні 1942 года ў Мінску адбыўся царкоўны сабор, які абвясціў аб аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы і зацвердзіў яе статут. За час вайны на Беларусі было заснавана 6 епархій Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, хіратанізавана 5 новых епіскапаў, што склалі Свяшчэнны сінод БАПЦ, які ўзначаліў мітрапаліт Панцеляймон. У склад сіноду ўваходзілі епіскапы Бенедыкт, Філафей, Апанас, Рыгор, Павел, Сцяпан. Але праіснавала БАПЦ на Беларусі вельмі кароткі час. Летам 1944 года ў выніку перамогі Чырвонай Арміі БАПЦ фактычна перастала існаваць як самастойная адзінка. Кіраўніцтва царквы на чале з мітрапалітам Панцеляймонам, невялікай колькасцю духавенства і вернікаў выехалі на эміграцыю спачатку ў Чэхію, потым у Германію. На эміграцыі вышэйшая іерархія БАПЦ у 1946 годзе далучылася да Рускай замежнай праваслаўнай царквы, узначальваемай мітрапалітам Анастасіем. Аднак частка вернікаў-беларусаў выказалася за аднаўленне ва ўмовах эміграцыі БАПЦ. У чэрвені 1948 года ў Канстанцы адбыўся царкоўны сабор, на якім прынята рашэнне аб аднаўленні царквы. У ліку яе заснавальнікаў — рэлігійныя і грамадскія дзеячы, якія арыентаваліся на ўрад БНР. Апекуном на некаторы час стаў архіепіскап Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Сергій. У канцы 1949 года Сергія абралі кіраўніком БАПЦ, а таксама быў хіратанізаваны (пасвячоны ў сан) епіскап БАПЦ Васіль (Уладзімір Тамашчык). Склаўся епіскапат царквы, які пачаў працу па ўмацаванню пазіцый БАПЦ сярод беларусаў на эміграцыі. Першапачаткова царква дзейнічала ў Еўропе — Германіі, Англіі, Францыі, Бельгіі. У далейшым, у пачатку 50-х гадоў, кіраўніцтва царквы разам з агульнай хваляй беларускай эміграцыі перамясцілася з Еўропы ў ЗША, Канаду і Аўстралію. У 1950 годзе архіепіскап Сергій пераехаў на сталае месца жыхарства ў Аўстралію. Епіскап Васіль пасяліўся ў ЗША. Душпастырскую дзейнасць сярод вернікаў вялі святары М. Шчурко, А. Кунцэвіч, А. Казлоўскі, А. Смаршчок, А. Крыт, Х. Данілюк, С. Вайтэнка, М. Мацукевіч, К. Савіцкі, Я. Якіменка і інш. Прыходы царквы ў замежных краінах прызнаны дзяржаўнымі ўладамі гэтых краін, зарэгістраваны афіцыйна і маюць права выконваць усе хрысціянскія абрады. Святары БАПЦ вядуць богаслужэнні на беларускай мове, здавальняючы патрэбу вернікаў у выконванні рэлігійных абрадаў. Царква займаецца дабрачыннай дзейнасцю, ахвяруе сродкі на выданне рэлігійнай, а таксама грамадска-палітычнай, навуковай, мастацкай літаратуры. Напрыклад, у наш час выданне беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Кліўлендзе — часопіс "Полацак" друкаваўся пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Кліўлендзе.

Маскоўская патрыярхія, шэраг іншых праваслаўных цэркваў не прызналі БАПЦ, лічаць яе дзейнасць некананічнай, г. зн. не адпавядаючай рэлігійным канонам праваслаўя. Але царква практычна дзейнічае ўжо больш за 40 гадоў і яднае вакол сябе беларускіх эмігрантаў розных пакаленняў. У 50-я—60-я гады існавала 6 прыходаў БАПЦ, у 1970-я — 15, у 1990-я — каля 20. У ЗША налічваецца каля 10 прыходаў царквы — прыход Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-парку (штат Нью-Джэрсі), Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе (штат Агаё), Святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Йорк), Святога духа ў Дэтройце (штат Мічыган), Святой Тройцы ў Дораты (штат Нью-Джэрсі), а таксама місіі (дзе богаслужэнні адбываюцца не кожны тыдзень) у Памоне (шатат Каліфорнія), у Барбэтане (штат Агаё) і Нэйплз (штат Флорыда). У Канадзе дзейнічаюць прыходы Святога Кірылы Тураўскага ў Таронта і Святога Спаса ў Манрэалі. У Англіі прыходы царквы існуюць у Лондане, Манчэстэры, Нотынгеме і Брэдфардзе. У Аўстраліі — у Адэлаідзе, Перце, Мельбурне, Сіднеі і Брысбене. У 1968 годзе былі ўзведзены ў сан два новыя епіскапы царквы — Андрэй (Аляксандр Крыт) і Мікалай (Міхаіл Мацукевіч). З 1970 года пасля смерці епіскапа Васіля амерыканскай епархіяй БАПЦ кіраваў епіскап Андрэй, які пасля смерці ў 1971 годзе епіскапа Сергія ўзначаліў усю царкву. У 1983 годзе пасля смерці епіскапа Андрэя ў БАПЦ адбыўся раскол. Зараз на эміграцыі фактычна існуе дзве рэлігійныя арганізацыі: пад патранажам мітрапаліта Мікалая і Рады БАПЦ і пад кіраўніцтвам мітрапаліта Ізяслава (пасвячоны ў сан у 1981 годзе) і Кансісторыі БАПЦ. Адпаведна падзяліліся прыходы царквы, веруючыя, рэлігійныя выданні, рэлігійна-грамадскія цэнтры і г. д.

(Працяг будзе).

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**ЗША.**

Шаноўныя спадары рэдакцыі "Голас Радзімы"!

Ваша газета дае шмат цікавых артыкулаў з розных галін жыцця. Мяне зацікавіў артыкул Л. Майсені "Ствараць у неспрыяльных умовах" (№ 28, 15.07.99 г.), дзе яна ўздымае пытанне аб беларускай мове ў навуцы. Каб узрушыць новую плынь у Беларусі, патрэбны добра адукаваныя і адданыя працаўнікі. Гэта вядома кожнаму з нас, дзе б беларус ні быў. Апроч таго, што беларусы былі гадамі пад уціскам, дык усе беды другой сусветнай вайны зваліліся на зямлю Беларусі, і лілася кроў днём і ноччу. Здратаваная вайной і забытая Богам гэтая Беларусь. Чарнобыльская аварыя нанесла краю страшэнны ўдар, які цягнецца гадамі. У тым жа № 28 газеты змешчана гутарка "Усынавіцелі" пра тое, што адаптацыя ідзе цяжка, што дзеці нараджаюцца хворымі. Я вельмі шкадую, што замежная дапамога як лекамі, так і грашовая не для ўсіх абяздоленых дзяцей. Каб не бралі з дапамогі падатак, знайшлося б больш дабрачынцаў.

У гэтым жа нумары яшчэ мне спадабалася апавяданне "Завея" Н. Вішнеўскай, добры правапіс і цікавае апавяданне. Шкада, што вельмі малы працэнт дзяцей у Мінску навучаецца на беларускай мове, а хацелася б, каб наша сталіца ганарылася сваім народам і роднай мовай, як гэта адбываецца ва ўсіх краінах свету!

З павагай

**Кастусь ВЕРАБЕЙ.**

* * *

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Вялікабрытанія. Сільвэстру БУДКЕВІЧУ.**
**Ваша пісьмо атрымалі. Дзякуй за допіс і ахвяраванні.**

# КНІГА Кастуся ТАРАСАВА ЧАКАЕ ПАДТРЫМКІ

Чалавецтва няўхільна набліжаецца да III тысячагоддзя. Два папярэднія яно пражыло пад непасрэдным уздзеяннем вялікай хрысціянскай ідэі, веры ў перамогу дабрыні і справядлівасці над злом. На парозе эпахальнай даты кожнаму народу і яго асобным прадстаўнікам варта задумацца: а што мы, што асабіста я зрабіў на гэтым свеце, які след пакідаем у гісторыі?

І ў кожнага, мабыць, будзе свой адказ на пастаўленае пытанне. Па-свойму пастараліся адказаць выдавецтва "Бацькаўшчына" і ТАА "Лекцыя", падрыхтаваўшы да выдання, без перабольшання, унікальную кнігу "Беларусь", якая ў даходлівай форме паказвае шлях народа за тысячу гадоў яго багатай гісторыі. Асэнсаваць і літаратурна выкласці ўсё гэта было няпроста. Але аўтар, ужо добра вядомы чытачам па кнігах "Пагоня на Грунвальд" і "Памяць пра легенды", Кастусь Тарасаў удала зваладаў з пастаўленай задачай, на што, аднак, пайшло некалькі гадоў дбайнай працы. Тры гады шчыраваў і творчы калектыў з трох мастакоў, якія здолелі падарожжа праз стагоддзі зрабіць яркім і ўражлівым. Па багацці ілюстрацыйнага матэрыялу гэтая кніга сярод тэматычна падобных не мае аналагаў.

Такое выданне будзе ганарова прадстаўляць Беларусь на кніжных кірмашах і конкурсах на самым высокім міжнародным узроўні. А які выдатны падарунак блізкаму чалавеку, асабліва дзецям і моладзі, а таксама замежным гасцям і партнёрам у бізнесе напярэдадні новага стагоддзя і тысячагоддзя! Такую магчымасць нашы ахвярадаўцы могуць здзейсніць у колькасці, якую пажадаюць.

Кніга, атрымаўшы высокую афіцыйную ацэнку ў рукапісе ад калектыву Беларускай Энцыклапедыі, узята для выдання паліграфкамбінатам імя Якуба Коласа. У яе, зразумела, ужо ўкладзены вялікія грошы, аднак наперадзе аплата друкарскіх паслуг.

Выдавецтва "Бацькаўшчына" звяртаецца да хрысціянскіх канфесій, прафсаюзаў, іншых арганізацый і ўстаноў, прадпрыемстваў і фірмаў, асобных замежных прадстаўніцтваў у Рэспубліцы Беларусь, а таксама да асобных ахвярадаўцаў як тут, на Беларусі, так і ў замежжы з просьбай дапамагчы: разам, супольна, нашай традыцыйнай беларускай талакой паспрыяць своечасоваму выданню. Фундатары, ці, іначай, спонсары, будуць у ёй годна адзначаны: на адным баку форзаца, на пачатку кнігі, мяркуецца ўвекавечыць найбольш вядомых ахвярнасцю людзей мінулага, якія, пачынаючы з часоў Скарынавай "Бібліі", рэальна спрыялі станаўленню і дасканаламу развіццю беларускага кнігадрукавання, якое ў лепшыя часы было адным з найдасканалых у Еўропе, адпаведна і ў свеце, а на другім аркушы — усіх, хто падтрымае гэта выданне і, такім чынам, паспрыяе ўмацаванню нашых традыцый духоўнасці.

**Яўген ЛЕЦКА.**



Фота БелТА.

**Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія — першая навучальная ўстанова ў СНД, якая атрымала права выдаваць выпускнікам як беларускія, так і расійскія дыпломы. "Двайныя дыпломы" першымі атрымаюць выпускнікі 2000 года.**

**НА ЗДЫМКУ: студэнты агранамічнага факультэта на практычных занятках на кафедры трактароў і аўтамабіляў.**

АСОБА

# СПЯВАЧКА Ліка ЯЛІНСКАЯ: «МНЕ ГРЭХ СКАРДЗІЦЦА НА ЛЁС»



**Ёсць жанчыны, пры поглядзе на якіх захоплівае дух. Вытанчанасць і прыгажосць спалучаюцца ў іх з таямніцай. А калі яна яшчэ разумніца і зусім нядрэнна спявае... Тады хочацца паразмаўляць з ёю і расказаць пра яе чытачам. Знаёмцеся: Анжаліка Ялінская, на беларускай эстрадзе амаль дзесяць гадоў. У яе двое дзетак — дачка, якой ужо 11 гадоў, і двухгадовы сынок.**

**Пра Ліку пачулі ўпершыню на Беларусі, калі яна перамагла ў конкурсе прыгажосці. Тады ёй было 18 гадоў, а дачцэ Дашы — 3 месяцы. Пікантная сітуацыя, згадзіцеся. Але Ліка Ялінская змагла даказаць: нарадзіць дзіця — не значыць страціць нешта ў сваёй знешнасці, а наадварот. Потым былі здымкі ў фільме "Пра яе, але без яе", праца спявачкі ў ансамблі "Верасы". Цяпер яна — прэзідэнт артклуба "Ліка", які арганізоўвае канцэрты, прэзентацыі, шоу. Сама ж Ліка Ялінская запісала альбомы "Папяровы Месяц", "Ноч без сну". Яшчэ была гісторыя са стварэннем школы прыгажосці. Ліка лічыць, што ў яе ўкралі ідэю, стварылі Нацыянальную школу прыгажосці, дзе Ліка стала непатрэбная. Але яна адкрыла сваю школу прыгажосці. І нават адбыўся першы яе выпуск. Вось што расказвае Ліка пра тое, адкуль з'явілася думка пра школу прыгажосці.**

— Ідэя прыйшла да мяне, калі я арганізоўвала Нацыянальны конкурс прыгажосці. Я ўбачыла, што дзяўчаты, якія бяруць удзел у конкурсе, сутыкаюцца са шматлікімі праблемамі падчас правядзення і пасля яго. Занадта многага яны не ведаюць і не ўмеюць. Іх лёгка пакрыўдзіць і падмануць. У выніку застаюцца пакалечаныя лёсы, разбітыя сэрцы.

**— Раскажыце пра першы выпуск школы.**

— Мы прынялі ў школу 20 першых дзяўчынак, якія да нас прыйшлі без усялякага адбору. Было дзве групы. У малодшай займаліся дзяўчынкі ад 8 да 13 гадоў, у старэйшай — ад 15 да 24. Яны вучыліся ў нас на працягу 3-х месяцаў: займаліся дэфіле, харэаграфіяй, аэробікай. Праходзілі асновы этыкі, эстэтыкі, стылістыкі і г. д.

Вынік нашай працы быў ашаламляльны. Бацькі дзівіліся на сваіх маленькіх дачок. Яны па-іншаму выглядалі, па-іншаму размаўлялі. Гэта было асабліва прыкметна, калі мы пасля заканчэння вучобы зрабілі шоу. Мае дзяўчынкі выступалі, як сапраўдныя зоркі!

**— Якую жанчыну можна назваць прыгожай?**

Кожная з нас непаўторная. Хай адна з вяснушкамі, а другая без іх, нехта вялікі, а хтосьці маленькі. Галоўнае для жанчыны — умець карыстацца тым, што маеш, і вучыцца радавацца таму, што ў цябе ёсць. Менавіта гэтаму і трэба вучыць дзяўчат. Тады яны будуць прыгожыя і пазбаўленыя комплексаў, тым больш, што непрыгожых жанчын няма. Ёсць лянівыя.

**— Ці ведаеце вы, што такое комплексы на асабістым вопыце?**

— Я шмат гадоў змагалася з многімі сваімі комплексамі. Здаецца, я перамагла. І, ведаеце, жыць мне стала цяпер у сто разоў лягчэй, больш камфортна, весела.

**— Ліка, вы лічыце, што жаноцкая прыгажосць, вытанчанасць запатрабаваныя ў наш час!**

— Яны неабходныя. Чым больш вакол будзе прыгожых людзей, тым больш будзе радасці, дабра, свята. Нарэшце, бруду на вуліцах стане менш. Ці ж гэтага недастаткова?

**— А раптам адбудзецца так, што выпускніцы школы прыгажосці не стасуюцца з рэаліямі нашага жыцця!**

— Наадварот. Тое, што хоча прапанаваць мая школа прыгажосці, дае жанчыне ўпэўненасць у сабе, набліжае да поспеху ў жыцці. Знешні выгляд тут адыгрывае не апошнюю ролю. Ведаеце, калі жанчына ходзіць у кароткай спадніцы, яна мусіць ведаць, як у ёй сядзець, як выходзіць з машыны. Бывае, бачыш на вуліцы цудоўнае юнае стварэнне. Яе б пераапрануць, вымыць твар ад безгустоўна накладзенай касметыкі — будзе прыгажуня. Шкада такіх дзяўчат. Ім хочацца і трэба дапамагаць.

**— Ваша дачка займалася ў школе прыгажосці?**

— Канешне.

**— Як вы выбіралі для сваёй дачкі сярэднюю школу?**

— Летась я перавяла Дашу ў прыватную гімназію, бо мне падабаецца ў ёй падыход да адукацыі, сама атмасфера, што там пануе.

**— Для вас прынцыпова, наколькі прэстыжная школа, куды ходзіць ваша дачка, з кім сустракаецца?**



— Для мяне вялікае значэнне мае кола яе зносін, яе сябры. А дзе вучыцца... На сённяшні дзень мяне задавальняе гэтая навучальная ўстанова. А далей будзем думаць.

**— Ці ёсць нешта самае важнае для вас, што вы хацелі б выхаваць у сваіх дзецях?**

— Асноўнае — кожны чалавек павінен стаць асобай. Ёй можна быць незалежна ад таго, якая ў цябе прафесія. І яшчэ важна рабіць спробу быць першым. Мне хочацца, каб мае дзеці былі пазбаўлены комплексаў і забабонаў.

**— Што значыць для вас незалежнасць?**

— Незалежнасць... Мы залежым ад усяго і ўсіх — нават ад надвор'я. Я магу сказаць пра свабоду. Я абсалютна свабодная жанчына. Мне неабходна быць свабоднай у сваіх меркаваннях, учынках. Што ж тычыцца матэрыяльнай сферы... Я даўно сама зарабляю на жыццё. Яшчэ калі была школьніцай, працавала падчас канікулаў. Магчыма, у творчасці я хацела б нейкай падтрымкі. З жыццём я магу саўладаць.

**— Наколькі вы далёкія ад быту?**

— Немагчыма вымыць падлогу, прыгатаваць супер-боршч і ўвечары выйсці на сцэну. Трэба быць ці спявачкай, ці хатняй гаспадыняй. Я выбрала першае. Мне вельмі дапамагае мама. У мяне ёсць домработніца, няня для дзяцей.

**— Дзе вы набываеце для сябе адзенне!**

— Адзенне для сцэны і на кожны дзень у асноўным куплю ў адным мінскім буціку. Мне там дапамагаюць, нешта рэкамендуюць.

**— Ці наведваеце вы салоны прыгажосці?**

— Праўду кажучы, я за шмат гадоў сёлета ўпершыню наведала касметычны кабінет і ўпэўнілася, што мне гэта не трэба пакуль. І, ведаеце, калі я чую скаргі на недахоп часу для сябе, хачу сказаць адно: трэба раней устаць з ложка і пазней легчы спаць. Удзень жанчыне патрэбна ўсяго гадзіна (30 хвілін раніцай і ўвечары), каб прывесці сябе ў парадак. Няўжо гэта шмат?

**— Чаму вы не выступаеце ў Мінску?**

— Я не даю сольных канцэртаў. У мінскіх клубах жа я спяваю. Але выйсці ў Мінску на вялікую сцэну мне хочацца з сапраўдным шоу. Есць рэпертуар, апаратура. Справа за часам.

**— Вас можна часта ўбачыць сярод удзельнікаў эстрадных канцэртаў у Маскве. Як вы сябе там адчуваеце!**

— Годна. Я ўмею адчуваць сябе натуральна паўсюль. Я жыву сённяшнім днём, маючы на ўвазе свае 3—4 крокі наперад. Я імкнуся да камфортнага самаадчування там, дзе знаходжуся.

**— Здаецца, вам не даводзіцца сёння скардзіцца на лёс. Ці ўяўлялі вы, чым будзеце займацца гадоў праз 20, 30!**

— У маім жыцці, як у любым, было ўсялякае. Але я сапраўды не магу сказаць, што я няшчасная. У мяне ёсць я. Ёсць мае любімыя дзеці, сябры і блізкія, праца. Нават каханне ў мяне ёсць. Мне грэх скардзіцца на лёс.

Я спакойна думаю пра сябе і ў 50, і ў 70 год. Я не магу дакладна сказаць, што я буду рабіць тады, але ведаю: буду абавязкова чымсьці сур'ёзна і па-сапраўднаму займацца. Сядзець склаўшы рукі я не змагу.

**Гутарыла Алена СПАСЮК.**

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# СЕРЖЫКАВЫ АПАВЯДАННІ

## ДВА СЛОВЫ

Хоць Сержык чалавек яшчэ невялікага веку, але ў свае дашкольныя гады ён наведаў аж цэлыя дзве краіны: шасцігадовым — сонечную Балгарыю і сямігадовым — Кіпр. Я пацікавіўся ў Сержыка, як яму там было, з кім ён там пазнаёміўся, з кім сябраваў.

— Было цёпленька і добранька, — сказаў ён. — Купаліся, з горачкі каталіся. Хадзілі ў вадзяны экзапарк... Дзеці тут былі розныя. Адзін — немец — з Германіі. Такі тоўсценькі, ружовенькі. Звалі яго Фрыц. Былі дзеці і з Венгрыі, і Славеніі. Я больш гуляў з хлопчыкам з Славеніі. Калі я з ім гуляў, дык усё разумеў. Мы з ім смяяліся, забаўляліся, вадой пырскаліся, на надзіманых матрацах плавалі, з вадзяных аўтаматаў стралялі... А вось калі я слухаў, як гавораць яговыя тата і мама, то нічога не разумеў. І толькі два словы пазнаваў: Беларусь і беларус. Гэта яны штосьць пра мяне гаварылі. А вось што — дык і не ведаю...

Калі Сержык пайшоў у школу, то з першага класа пачаў вывучаць англійскую мову. Спадзяецца, што веданне беларускай, рускай і англійскай моў дапаможа разумецца з дзецьмі іншых краін, калі яму зноў выпадзе патрапіць у нейкую замежную краіну. На гэты раз Сержык пастараецца замежным равеснікам як мага больш расказаць пра сваю Беларусь. А каб яговыя расказы былі больш яскравыя, ён мяркуе ў чарговую вандроўку за мяжу набраць з сабою маляўнічых беларускіх паштовак, значкоў, а мо нават якую сваю любімую кніжачку пра Беларусь. Скажам, "Ты жывеш у Беларусі". А што?! Хай за мяжой спазнаюць наш край! Сержык дзеля гэтага гатовы быць пасрэднікам.

## СОНЦА КУПАЕЦЦА

Надвечар з Сержыкам гулялі па набярэжнай мінскай рэчкі Слепні. Якраз сонца пачало хіліцца на захад. Зверху яго прыціскала цёмная хмара, і вогненны шар быў нібы заціснуты між хмарай і далёкім небасхілам, за які яно павінна было схавацца, і яму, беднаму, не было куды дзецца на тую пару як ускочыць у рэчку. У якія рэчкі яно ў той вечар ускочыла, не ведаем, але, мабыць, ва ўсе, якія толькі ёсць на свеце. А што ў Слепню ўскочыла, то гэта дакладна: на свае вочы з Сержыкам бачылі. То я і кажу:

— Бачыш, сонца ў рэчку ускочыла.

— Бачу, — кажа ён. — А чаму яно ўскочыла?

— А пакупацца захацела. За дзень натамілася, напрацавалася, вось перад сном пакупацца наважылася.

— А чаму пакупацца?

— Каб на новы дзень сілы набрацца. Заўтра ж зноў трэба цэлы дзень усім свяціць, усіх грэць... Ты ж перад сном мыешся, купаешся? — скіраваў я гаворку на Сержыка.

— Купаюся, мыюся...

— А для чаго?

— Каб добра спалася.

— Ну вось гэтак і сонейка робіць, каб добра яму спалася.

Здаецца, такое маё тлумачэнне Сержыка задаволіла. Ва ўсякім разе, пытанняў, чаму сонейка ўскочыла ў рэчку, не было.

**Запісаў Уладзімір СОДАЛЬ.**

З УСМЕШКАЙ




**Малюнак Юрыя РАДНОВА (14 гадоў), г. Мінск.**

— Вася! — крычыць жонка ад дзвярэй. — Тут прыйшлі па ахвяраванні на спартыўны басейн. Што ім даць?

Муж з глыбіні кватэры:

— Дай ім два вядры вады.

* * *

— Ян! У цябе ёсць які-небудзь фізічны недахоп? — спыталі ў прызыўніка на медкамісіі.

— Так, мяне ванітуе ад ваеннай службы.

* * *

Памірае "новы рускі". Ля хворага сабраліся родныя, сябры, таварышы па бізнесу. Хворы трызніць, страшна лаецца:

— Гады, злодзеі, забойцы, душагубы...

— Становішча не такое ўжо безнадзейнае, — гаворыць урач. — Сваіх ён яшчэ пазнае!

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 37

**Словы па напрамку "А":** 1. Прэса. 2. Карта. 3. Гагат. 4. Атрад. 5. Казус. 7. Птах. 8. Робат. 9. Каляя. 10. Парык. 12. Слота. 13. Ранец. 14. Затор. 15. Склад. 16. Сенат. 17. Рампа. 19. Брута. 20. Скаба. 21. Чарга. 22. Акоп. 23. Аксід. 24. Армяк. 26. Балет. 27. Сотка. 18. Багаж.

**Словы па напрамку "Б":** 1. Пошта. 2. Канат. 3. Група. 4. Атлас. 5. Катах. 6. Сход. 8. Рапля. 9. Кулак. 10. Парад. 11. Казка. 12. Сявец. 13. Рымар. 15. Старт. 16. Сечка. 17. Ротар. 18. Байка. 19. Барка. 20. Спора. 22. Атрад. 23. Аброк. 24. Агра. 25. Аплот. 26. Бірка. 27. Сянаж.

«Голас Радзімы»

Рэдактар Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і адрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1802.
Падпісана да друку 27.09.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.